# Пасля свята

***Гэрман Гэсэ***

*На стале – сляды ад він,*
*Свечкі свецяць слепавата.*
*Застаюся зноў адзін.*
*Зноў закончылася свята.*

*Сумна. Я святло тушу.*
*У пакоях ціша, скруха.*
*Пошум ветрыка ўвушшу:*
*Шэпча дрэвам штось на вуха.*

*Аднаго хачу тады:*
*Як хутчэй заплюшчыць вочы,*
*І, заснуўшы, назаўжды*
*Адыйсці ў абдымкі ночы.*

* * *

Зямля спазнала Каіна і Хама,
І, тым не менш, яна яшчэ жыве:
Старая сцежка, росы на траве,
Журботны твар, святая постаць... мама.

частка першая

# Я запаветы маміны збярог

* * *

Іскрыцца снег пад месячным святлом,
Я крочу полем, снег праз ноч рыпіць.
Вунь нашу хату бачу, родны дом.
І ведаю, што мама там не спіць.

Чакаючы бадзяжнага мяне,
О колькі перадумалася ёй,
О колькі перабачылася ў сне,
І плакана з няўдаласці маёй.

Хто вёў мяне ў жыцці – нячысцік, Бог?
Хто навучыў пакутваць і любіць?
Я запаветы маміны збярог,
Ды не сумеў па іх жыццё пражыць.

## Адзінота

Адзінота – не жорсткая кара…
То найлепшыя ночы і дні.
Час узлёту:
Вялікая мара
Не трывае пустой мітусні.

Гэта час пазбаўлення ад путаў,
Ад будзённых і дробязных спраў.
І не бойся душэўных пакутаў –
Гэты лёс ты свядома абраў.

Ты – наперадзе.
Ты адарваўся
Ад натоўпу, што квола брыдзе.
Ты памкненнямі кіраваўся,
Невядомымі грамадзе.

Будзь адзін.
Для душы гэта лекі.
Ты адзначаны Богам –
Тварыць.
За табою брыдуць чалавекі.
Ім душа тваязоркай гарыць.

* * *

Калі наўкол спрачаюцца, крычаць,
Ты збоку стань і пачакай трывала,
Найлепей гэтым часам памаўчаць,
Пакуль зусім не ўляжацца навала.

Не патрабуй увагі, цішыні...
Натоўп ніколі аднаго не чуе.
Няхай крычаць. Тым часам адпачні.
Няхай сваё крыкун адлямантуе.

Не патрабуе праўда гучных слоў.
Лепш пакланіся гэтым людзям нізка.
І ў цемры пазатлумленых галоў,
Заззяе раптам зыркае агніска.

* * *

Хтось мне сказаў: «З такім рэсурсам,
Калі як трэба захацець
І плыць заўжды належным курсам,
То можна высака ўзляцець».
А я крычу: «Не прадаюся!»
А я крычу: «На тым стаю!»
А сам баюся: надарвуся
Што заспяваў, не дапяю...

* * *

У спёку, вецер ці марозы,
Пад спеў ваўчынага выцця
Хадзіў я ў змроку нецвярозы,
Шукаючы свой сэнс жыцця.

Аўтадыдакт, хлапец вясковы,
Я выйшаў на ліхі скразняк.
Без вопыту самаахвы,
Ачомацца не мог ніяк...

Не разумеў законы веку,
Што свет у ступе вечнай тоўк:
Хто ж чалавек ёсць чалавеку –
Ці кроўны брат, ці з лесу воўк.

Душа адметнага хацела,
Чаго – не ведала сама.
О, як ёй вырвацца карцела
З уціску вечнага ярма.

Міналі хутка дні і ночы,
Мільгалі месяцы, гады́.
Жыў да жыцця я неахвочы,
Не быў ніколі малады...

* * *

Я дні і ночы ператасаваў,
Рассыпаў дробязь жартаў і размоў.
Глядзіць мне ўслед прарочая сава
Сляпымі аканіцамі дамоў.

Ліхтар скрыпучы каркае бяду,
Свідруе зрокамаднавокім змрок.
А я брыду, замораны, брыду,
Ноч незнарок адлічвае мой крок.

Дайду ці не дайду? Ці ў ночы прападу?
А зорка ўсё міргае, быццам знакі шле...
Я да зямлі на золку прыпаду...
І не скаруся ночы і імгле.

## Недарэка

Я ў жыцці анічога не петрыў...
Вечна гнаны з усіх бакоў,
Не спасціг ні нябёсаў, ні нетраў,
Ані д'ябалаў, ані багоў.

Не ўгрызаўся ў граніт навукі,
Мазалі на руках не спяліў.
Піў гарэлку з адвечнай дакукі,
Піў на вынас і на разліў.

Недарэчнасць апраўдаваў лёсам,
З прагматычных смяяўся заўжды,
А калі заставаліся «з носам»,
Шкадаваў іх, няўдалых, тады.

* * *

У застоллі – адзін, у натоўпе – адзін,
І нават адзін – з табою.
Ад думкі пра тло змарнаваных гадзін
Няма мне ані адбою.

Жыву на самоце, бы хто мяне ўрок...
Разгадкі ў душы шукаю...
Не, я адзіноцтва не прагнуў знарок –
Планіда мая такая.

* * *

Хоць шмат гаварылі, ды мала сказалі...
Ніяк не хапіла начы.
Зычлівыя зоркі таемна міргалі:
Імкнуліся дапамагчы.
Хоць іхнія знакі яны разумелі,
Ды выказацца не маглі.
Пад раніцу, змораныя, зніякавелі,
Без развітання пайшлі.

* * *

Дробны дождждык імжыць.
Сёння зноў непагодна.
Ёсць традыцыя – жыць.
Гэта сёлета модна.

Крыж нясцерпна баліць,
Ціск гуляе-сваволіць.
Буду Бога маліць,
Хай пажыць мне дазволіць.

Я трываю, цярплю
Боль, прыгнёт і пакуты.
Цяжка мне, а люблю
Я жыццё.
Гэта крута.

* * *

Тут наша ўсё: жыццё і горкі лёс,
Адвечны род, па-свойму адмысловы...
Сяджу прымоўклы, не трымаю слёз,
Гляджу на свет, такі няўцешна новы.

* * *

Сёння справы часова закінуў,
Адпачынак сабе даю,
Акунаюся ў вір успамінаў,
І вярэджу душу сваю.
Між падзеяў і дробных учынкаў,
Дзе адходаў растуць груды,
Я шукаю драбок, залацінку,
З існай вартасцю назаўжды.
Рэдка-рэдка душа адкугнецца
На знаходку, што блíсне-міргне,
Не на тую, што ўверх імкнецца,
А што свеціцца сціпла на дне....

* * *

Я марнаваў свой час дарэмна…
Цяпер здаецца мне, што я,
Нічога не пасціг, што дрэнна
Старалася душа мая.

Як часта я праходзіў міма
Людскіх турбот
Крывой мяжой,
Сачыў халоднымі вачыма
Я за нявыкруткай чужой.

Цяпер, стары, я разумею,
Што несур'ёзны быў, лайдак,
Хутчэй бег да цяпла ў завею,
Ды кпіць з начальства быў мастак.

Што ж, прызнаюся: я вось гэткі,
Цяпер сябе ўжо не змяніць.
Але і плюс – падцвердзяць сведкі –
Быў у мяне: не ўмеў маніць.

* * *

Здаецца, што яшчэ не жыў,
А толькі ночку пераначаваў.
Нічога на алтар не палажыў,
На заўтра каліва не прыхаваў.

Які ж астатак будзе той сухі,
Што выпадзе, застаўшыся на дне?
Грахі, на жаль, адны толькі грахі...
Ад іх нікуды не падзецца мне.

* * *

Даўно памёрлы класік настаўляе
Мяне на шлях любові, дабрыні...
А лёс са мной, як хоча, так гуляе,
Не патлумачыўшы ані
Мне сэнс гульні...

Раблю хады без жаднага разліку,
І бачу сам яскрава: прайграю...
Жыву між смерцю і жыццём на стыку,
Душу сваю надзеяй не гаю.

Вакол такія ж чэзнуць небаракі,
Не ведаючы, жыць далей ці не...
На неба пазіраю і шукаю знакі,
А што яно рыхтуе для мяне.

* * *

Мне сівізна на галаву,
як іней на траву,
кладзецца...
Трываю боль – але жыву,
мне анікуды не падзецца.

Не раз даваў зарок: душу
больш не адкрыю ліхадзею.
Зноў спатыкнуўся,зноў нашу,
як птушаня ў крыві, надзею.

Упарта крочу на святло,
мне ў змроку бачацца прагалы.
Як можна дапусціць,
каб зло
нахабна так перамагала?

* * *

Не зменіш жыццё ўжо,
Бо так яно склалася.
Магчыма, нармальна,
Магчыма, што – не.
А старасць зусім непрыкметна падкралася,
Тлом падыхае ў патыліцу мне.

Баюся ў душы я назад азірнуцца,
Убачыць баюся гады і сляды.
Няма дзе прыткнуцца,
душой прыгарнуцца...
Сэрца сцінаецца
Ад злыбяды...

* * *

Перабіраючы факты
Жыццёвай жуды і нуды,
Пытаю сябе: «А як ты
Выходзіў з навалы-бяды?»

Пачухаўшы трошкі за вухам,
Бадзёра прамовіў я ўміг:
«Быў, пэўна, я моцны духам...»
І сарамліва заціх.

І з горыччу засмяяўся,
І позірк у дол скіраваў:
Я ж вечна ўсяго баяўся,
Вось гэтак і выжываў.

## На тым стаю...

На тым стаю... будзённы і без позы.
Не маю ані кроплі артыстычнасці.
Калі мне крыўдна, не хаваю слёзы.
Калі смяюся, дык да істэрычнасці.

Мне не хапае волі, каб стрымацца,
Калі «герой» ілжэ, ды закавырысцей.
Я не палезу з дурнем абдымацца,
Я не цалуюся ні з кім без шчырасці.

На тым стаю і так жыву, шчаслівы.
Бывае цяжка... хто гэтым цікавіцца...
А час перацірае ўсё на мліва:
Усё, што ганьбіцца, і ўсё, што славіцца.

## Душа

Чую, як просяць: «Не лезьце ў душу,
Я там патаемнасць хаваю».
А я не баюся: «Зірніце, прашу,
Вам насцеж яе адкрываю...
Глядзіце, чапайце, няхай забаліць,
На спёку яе, у завею!
А то, распанеўшы, не зможа любіць,
А то, як скарынка, счарсцвее».
Ёй горача робіцца на скразняку,
Ад спёкі яна не згарае...
Лёгка жывецца на сталым вяку,
Калі душа не старая.

## Верш, напісаны ў Вэцлары (Германія)

Ненавучаны нічому,
Без аналізу памылак,
Я вяртаюся дадому,
Да падворкаў і магілак.

Пасярод людзей прыемных,
Між вітанняў, між усмешак
Адчуваю ўсё ж: дарэмна
Я сябе вандроўкай цешыў.

Не змянілася нічога
У маім трывожным стане...
Не праясніла дарога
Аніводнага пытання.

## Я ведаю, што там

*Дзівак не такі смешны, якім яго робяць.*
***Жан Пауль.***

Не трэба спяшацца смяяцца з мяне,
Не трэба з мяне пацяшацца.
Хоць я, можа, з краю, але не на дне,
Усё яшчэ можа пачацца.

Усё яшчэ можа пачацца з нуля.
Хто загадзя лёс свой згадае?..
Не трэба судзіць мяне знешне, здаля,
Бо знешнасць і хлусіць, бывае.

З сябе пасмяюся і вас рассмяшу,
І ўбачуся вам недацёпам.
А вы
У сваю зазірніце ў душу.
Маўчыце...
Я ведаю, што там.

## Мара

Карысным нічым не займаюся –
Я з вечнасцю абдымаюся,
Да ўсякіх дурнотаў ахвочы,
Гляджу ёй пранізліва ў вочы,
Кажу: «У тваім абсягу
Ці знойдзецца мне, бадзягу,
Маленькі ўтульны куточак
І да яго замочак?
Замкнуся, каб свету не бачыць,
Каб думаць сваё і... лайдачыць».

## Настрой

Адно толькі слова: «Вітаю»
Мне надае імпэту.
Прыземлены, я ўзлятаю,
З надзеяй гляджу на планету.

Навокал зычлівыя ўсмешкі...
Уміг развінаю плечы.
Зноў вабяць шляхі і сцежкі,
Знікае настрой старэчы.
Жыццё пачынаю нанова,
І свет мне здабыткаў жадае,
Ды раптам нядобрае слова
Мяне зноў у продань кідае.

* * *

Раненая незагойна,
Зноў душа пакутна плача.
Хочацца ж пажыць спакойна,
А жыццё ідзе іначай.

А жыццё прыносіць страты,
А жыццё прыносіць жахі.
Я лічыў, што свет стракаты,
Ён жа збрудзіў апранахі,

І цяпер зрабіўся шэры –
Колер мёртвы, недарэчны.
І баліць душа без меры,
Гнездзіцца ў ёй страх адвечны...

* * *

Хоць цяжка, а ўсё ж прызнаюся сабе:
Я людзям зашмат дакучаў,
Пыжыўся з гонарам у пахвальбе,
Словы – не лепшыя – запазычаў...

І людзі, наіўныя, верылі мне,
Прароцтвам няўцямным маім.
А ўсё, што казаў я, было не ў цане,
Сплывала бясследна, як дым.

Цяпер зразумеў я ўсё і маўчу...
Так, слова пустое – тло...
І ўсё ж апраўдацца сёння хачу,
Зло не ўва мне было...

* * *

Люблю я звон чыгункі:
Вязе дамоў цягнік...
А на праходзе клункі,
Дзіцячы смех і крык.
А за вакном мільгаюць
Палеткі і лясы,
Яны дапамагаюць
мне жыць...
Ва ўсе часы.
Выцягваюся ў струнку,
На голенькім палку...
І слухаю чыгунку...
Турботы – пад шчаку...

* * *

Вар'яцтва надыходзіць паступова,
Яно ў душы да часу нібы спіць.
Хаваецца надзіва паспяхова,
Само з сабой смяецца,
з іншых кпіць.

Задумае сваё
І ўпарта справу робіць.
А вы, хто як нармальныя жылі...
Не дай вам Бог
У тую пастку собіць –
Самім вам больш не выбрацца з пятлі.

Вар'яцтва вас захопіць, замілуе
І зацалуе да крывяных слёз.
І вечную свабоду падаруе.
Ці ж не пра гэта вы малілі лёс?

* * *

Прыйшоў вар'ят з двара, бясконца рады...
Ён мне пазычыць шчасця захацеў.
Як нашыя сустрэліся пагляды,
Адчуў я, што паціху вар'яцеў.

І для душы настала раптам свята,
І я дурную ўсмешку не хаваў.
Абняў вар'ята шчыра, быццам брата,
І са слязой яго пацалаваў.

* * *

Наліваю гарэлкі бамжу.
Выпівае. Я горыч глытаю.
Перайшоў бедалага мяжу.
А калі, я яго не пытаю.

Не пытаю яго ні аб чым.
Ён не кажа, што заўтра «завяжа».
Нам вядома, пра што мы маўчым.
Ноч наўкол асядае, як сажа.

* * *

Вясёлая пар*а* юнацтва
прыходзіць нечакана ў сны:
кахання дзёрзкае вар'яцтва
і ачмурэнне ад вясны.

А потым, як наканаванасць,
нібы аціхлы раптам звон,
пад раніцу – расчараванасць...
І ўсё ж надзея: дзіўны сон

напэўна ж збудзецца аднойчы,
паўторыцца ў жывым жыцці:
ты зазірнеш у тыя ж вочы,
і ў іх не прамільгне: «Пусці...»

## Першае каханне

Пад ценем кашлатых дубоў
Ты слухала словы кахання.
Ад гэткіх салодкіх прамоў
Дамоў не спяшала да рання.

Ты слухала іх без канца
І радасць сваю не хавала.
За пекныя словы хлапца
У вусны яго цалавала.

Праменні расчэсвалі чуб
Кудлатага дуба паволі.
Таго, хто дзяўчыне быў люб,
Галубіла да спатолі.

Потым ішлі па расе,
І шчасце ў іх сэрцах спявала.
Жыццё іх у юнай красе
Яшчэ толькі паўставала.

## Воля

Крочылі пацiху да вакзала -
Ён заўжды ахвотна вандраваў.
I яна задумлiва сказала:
«Ты жыццё мне жорстка здратаваў».

Цалаваў няёмка пры народзе,
Хутка i не палка, на хаду.
I ў пустым вагоне, на праходзе,
Выцер цiха вусны й бараду.

Па бульвары шумным ад вакзала,
Стрымлiваючы слёзы, пабрыла.
Цiха на хаду сабе сказала:
«Радуйся: ты волю набыла...»

* * *

Любiў я часам кiнуць-рынуць справы,
Расслабiцца, забыць пра тармазы...
Вясёлы, лёгкадумны, кучаравы,
Лавiў iмгненнi, набiваў гузы.
Жаданым госцем пачуваўся ў свеце,
I мне мiргаў зычлiва белы свет...
На бестурботным, маладым праспекце
Трапляў, няўклюдны, у жывы букет.
Наiўны быў, я гэтак лёгка верыў
У дабрыню, што пераможа зло.
...Былi, былi цудоўныя намеры...
Здабыткi, страты – ўрэшце толькi тло.

* * *

Як карацеюць плыткія хвіліны…
Жыву, нібы цыгарачку палю.
Завершыць справу сёння быў павінны…
Не ведаю, ці заўтра дараблю.

Кручуся ў коле часу, як закляты…
І зноў не паспяваю, хоць крычы.
Зноў новы дзень ступае мне на пяты.
Нікуды не схавацца, не ўцячы.

Дзе б мне дзянёк пазычыць альбо ўкрасці,
Каб проста жыць, нічога не рабіць?
Не, не патрэбна мне такое шчасце…
Хай да «чынарыка» жыццё гарыць!

* * *

Усіх, усіх абзваню:
Знаёмых, сяброў, суседзяў
Ім гладка ўсім наманю,
Што шчасце нарэшце зведаў.

Што сплю, як пшаніцу прадаў,
Удачнік, гуляка фартовы.
...Мой лёс, мой пражорлівы ўдаў,
Каўтнуць мяне цалкам гатовы.

* * *

Без злосці, без пагарды
Гляджу на белы свет.
Я па жыцці не ўпарты,
Я помню запавет,
Які я чуў ад маці,
І не паспеў забыць,
Што добра мець багацце,
А лепш – сумленным быць.
На жаль, я не заўсёды
Выконваў той наказ,
Таму без асалоды
Свой дажываю час.

## У тупіку

Ніхто з сябе так горка не смяяўся,
Як я, лайдак, патрапіўшы ў тупік.
Шапчу сабе: «Ну вось... а ты баяўся...
Вылазь. Далей твой не ідзе цягнік.

Далей не пойдзе. І назад не пойдзе.
Няма білетаў. Ка́са на замку.
Прысядзь на лаўку, адпачні, Валодзя,
Тут вельмі добра думаць, у цяньку.

Не холадна і мухі не кусаюць,
І дурні-пеўні горла не дзяруць.
Вунь зорачкі, як вішанькі, звісаюць.
Сарві адну. Тут штрафу не бяруць.

Зірні наверх. Раз'яснілася неба.
Яно ж – прыпомні! – ўсякае было...
Не трэба плакаць. Сумаваць не трэба.
І шкадаваць не варта, што прайшло...»

## Мой Анёл

Ці не хопіць на мяне грузіць?
Я сагнуўся, цяжка ўжо цягнуць.
Я хачу крыху прытармазіць,
Адсапнуцца і перадыхнуць.

Спачуванне сёння не ў цане,
І цяжар нястрымана расце...
На якой жа лёсавай вярсце
Мой Анёл палёгку зробіць мне?

* * *

«Стары» – непрыемны прыметнік,
Хто скажа: «Старое люблю»?
Карысці няма – на сметнік,
У полымя ці ў зямлю.

І гэта зусім не дзіва,
І гэта – адвечны закон.
І нават было б жахліва,
Калі б не дзейнічаў ён.

Няхай навіна ўзыходзіць,
І свет будзе жыць навіной,
Калі яна добра ўродзіць,
Падкормленая старызной.

## Кругазварот

Сноп абмалочаны. Салома
У хлеў на подсцілку ідзе.
Усё гэта даўно вядома...
Зноў зерне ў глебу
упадзе.

Зноў новы колас адрунее,
звязуць салому
у стагі...
Жыццё бясконца зелянее.
Касе зноў сняцца мурагі.

* * *

Ад лёсу не чакаю падарункаў,
Жыццё прайшло праз вечныя сумненні,
Я не шукаў выгодных накірункаў,
Мной кіравалі мары-летуценні.

Што мне дапамагала жыць на свеце?
Хоць рэдка, мары явай паўставалі.
Жахлівыя ж трызненні на дасвецці,
Пачварныя, сплывалі і знікалі.

* * *

Цяжка? А ты трывай...
Сплочвай спраўна даўгі.
З мёртвага ж спрос благі.
Пакуль жывы – аддавай.
Пакуль на зямлі жывеш,
Сей, даглядай, збірай.
З доўгам не пусцяць у рай.
Падманам сябе не цеш.
Як бы ты ні гадаў,
Калісьці мусіш пайсці.
Анёла папросіш: «Пусці».
А ён запытае: «Аддаў?»

* * *

Мой цень мяне суправаджае,
Маўчыць і побачкі бяжыць.
Не хваліць і не асуджае,
Указак не дае, як жыць.

Бяжыць мой цень і ўсё даўжэе...
І ноч усё бліжэй, бліжэй...
Жыццёвы гнёт усё цяжэе
І робіцца ўсё даражэй.

* * *

Я не баюся, што звалюся
На волгласць нетаптаных рос.
Гляджу на зоры. Спадзяюся
З іх прачытаць уласны лёс.

Якія знакі ці сігналы
Перадаюць яны Зямлі?
Ды розум мой недасканалы...
Мы ўрокі Неба не прайшлі.

* * *

Дзед сядзіць самотна сам з сабой,
Думае, пра тое, што мінула,
Поўніцца душа яго журбой,
Бо жыццё, здаецца, падманула.

Абяцала ж радасцяў яно,
І здабыткаў, і забаваў... волі.
Можа, штось было, але даўно,
І не столькі, каб сказаў: «Даволі!»

Ды не паддаецца дзед журбе,
Хоць жыццё дражніла і ламала...
Ціха пасміхаецца з сябе:
«Чалавекам быць табе замала?»

* * *

Не сплю да позняга світання,
Мінулы дзень мне рэжа вочы...
Я шлю сардэчнае вітанне
Пакутнікам бяссоннай ночы.

Чаму вам, дзівакі, не спіцца,
Не спраўдзілася мара, пэўна?
Пра боль не можаце забыцца,
Крыўдзіцеля клянеце гнеўна?

* * *

З дрэва жыцця, як лісце,
Час абрывае гады.
Мне нават дзіўна: калісьці
Быў жа і я малады.

Вясёлы і зухаваты,
Не турбаваўся пра час.
Упэўнены быў занадта,
Што невычэрпны запас.

Дробязь звініць у скарбонцы,
І тую ўжо час аддаць.
А што застаецца на донцы?
Напружваю зрок.
Не відаць.

* * *

Заўсёды, калі не чакаю
я ўжо ад жыцця нічога,
радасцяў не шукаю
і не гукаю да Бога;

калі пратаптанай сцежкай
крочу без хэнці, без мэты,
ды раптам убачу ўсмешку
дзіцяці альбо кабеты,

тады развінаю плечы,
і аджываю, гарцую,
бо пешчу надзею: мо ў нечым
і мне яшчэ пашанцуе?

* * *

А дзе мне пазычыць імідж і харызму,
Калі я не гонкі, ды без барады?
Палову жыцця свайго
я аддаў марксізму,
як пень,
бестурботны, дзёрзкі, малады.

Зялёным юнацтвам быў тады шчаслівы,
Не думаў нікольні, зграбны я ці не.
У душы кіпелі памкненні, парывы,
А дзяўчаты проста ліплі да мяне.

Згорблены цяпер я,
кволы, непрыглядны.
Барада, як венік, рэдкая расце.
Хваробам, надвор'ю настрой падуладны,
Вурчыць непрыстойна часта ў жываце.

Не, я анікому гэткага не зычу...
Ні сябру, ні злыдню – ані хоць каму.
Ну, дзе таго іміджу я цяпер пазычу,
Гэную харызму – ну, дзе я вазьму?

* * *

Я ўжо стары. Я цяжка размаўляю.
Мой крыж «страляе» і рыпіць сустаў.
Я Галубовічу не патрафляю,
На сорам свой, Вішнёва не чытаў.

Я – дзед прыстойны і рахманы, ціхі,
Сяджу, як тая мышка, у кутку.
Калі і выступаў дзе, дык без пыхі,
Не кланяўся мясцоваму царку.

Жыццё пражыў – не мудры, не асілак,
Хоць і не зух, але й не поўны лох.
Цягну з сабою поўны мех памылак,
Якія выправіць так і не змог.

* * *

Ілюзіі праходзяць... і жыццё.
Вароны застаюцца на Радзіме.
Пажоўкла ўжо балотнае трысцё.
Канец адносінам паміж дваімі.

Знямогся на пакручастым шляху...
Іду, а ногі ўпарта загразаюць.
Зашмат нядобрага цягну ў мяху.
Мой дух і хэнць маю
Грахі кілзаюць.

Я выйду на сухое, і прывід
Убачу на мяжы святла і ценю.
Жыццё сваё
Расстрэльваю наўскід.
Вось і канец
Трымценню і хаценню.

* * *

Я так і не знайшоў сябе –
Відаць, не там шукаў.
Набіў гузоў я на ілбе,
І лёс адмацюкаў.

Я пошукі перапыніў,
Сказаў сабе: «Амбец!»
Заснуў і хлапчука сасніў,
Што з вёсачкі Дварэц.

І я разгаварыўся з ім,
Пытаўся пра жыццё.
У вочы лез мне едкі дым,
Іх рэзала асцё.

І прачыналася ў журбе
Збалелая душа.
«Вось і знайшоў ты сам сябе...
Паплач, паплач спярша...»

* * *

Цяпер жыццю я не супраціўляюся,
Няхай яно ідзе, як Бог святы дае,
Працую мала, болей забаўляюся,
І слухаю душу, калі яна пяе.

Куды спяшацца, да чаго імкнуцца?
Чаго няма – няма, хапае мне, што ёсць.
Жаданне маю: раніцай прачнуцца,
І азірнуцца – што за прыгажосць!

Ці сонца ў небе, а ці дождж грукоча,
Ці снегавеі круцяць за вакном.
Уся істота з гэтым зліцца хоча,
Перш чым засну глыбокім вечным сном.

Пара ўжо нам адумацца, старыя:
Часы прайшлі, і мы не вернем іх.
Папросім Бога, хай ён нас закрые
Сваёй рукой ад чорных сіл сляпых.

* * *

З горкай крыўдай я пайшоў з двара,
З думкай пашукаць дзе лепшай долі.
Плакала нявінная зара,
Шастаў вецер па няўтульным полі.

Крочыў я і сам сабе шаптаў
Словы пра гаротны лёс адвечны
Сэнс таго, што рот мой мармытаў,
Быў вар’яцкі, – гэткі недарэчны.

Аніхто не чуў мяне ўначы,
Я, дзікун, дапяў да раздарожжа.
Зразумеў: хоць голасам крычы,
Аніхто табе не дапаможа.

Сілы не было ісці назад,
Сілы не было наперад крочыць.
І я ўпаў, дзе быў, пад зоркапад,
З ноччу непрабуднай –
Вочы ў вочы.

* * *

У гэту дзікую завею
Я выйду ў поле за шашу
І дзіка крыкну: «Я гібею,
Нічога я ў жыцці не ўмею,
Я ў неба літасці прашу!»

Прыслухаюся аж да болю,
Ці вецер што мне прынясе.
Гудзе завея на прыволлі,
Заломвае на дрэвах голле
І за чубы дубы трасе.

Завея круціць, вецер вые.
Ды долу боль мяне не гне.
Душа не плача і не ные,
Завеі косы ільняныя
Пяшчотна абвілі мяне...

* * *

Ты не хочаш са мной сябраваць,
Я не варты павагі і ўвагі.
Ты не прыдзеш, як будуць хаваць,
І не вып'еш у памяць бадзягі.

Бачу подленькія смяшкі,
Чую, мёртвы, і чуткі і плёткі.
І грахі мае ўсе, і грашкі,
Распаўсюдзяць «дзядзькі» і «цёткі».

Так і ёсць усё. Я – вар'ят.
Я імкнуўся, шукаючы Бога,
За мажлівае, за даляглад.
Памаліся за Праўду, нябога.

* * *

Калі я памру, то дарма не сумуйце,
Я ж буду да плачу глухі.
Вазьміце асадку лепш і падсумуйце
Даўгі мае і грахі.

І прыдзеце вы да высновы вясёлай,
Да просценькай думкі адной:
Вы, падлікоўцы, святыя анёлы
У параўнанні са мной.

* * *

Нялёгка ўсведамляем, што й без нас,
Жыццё хады сваёй не запаволіць.
Не заўважаем, што імклівы час
І нас нясе, гуляе і сваволіць.

У плыні розных спраў і мітусні,
Каб як не ўпасці, больш глядзім пад ногі.
Не спім начамі: мройна лічым дні
Да нашай меркаванай перамогі.

А час імчыць... Куды ён занясе?
Хоць ведаем, ды верым неахвотна.
Развейваюцца мроі пакрысе...
А на душы балюча і маркотна...

* * *

Жыццё пражыў, а жыць не навучыўся –
Усё ідзе не так, а наперакасяк.
Выдатнікам ніколі не лічыўся,
Перабіваўся з двойкі на «траяк».

Заўсёды з цяжкасцю здаваў іспыты,
Не вылічаў учынкі і хады.
Так і жыву, усюды лішні, біты,
Яшчэ й жартую: «А такой бяды...»

З усмешкаю вар'ята дзікаватай
На неба пазіраю спадцішка.
Адвечны Каін забівае брата...
Мой час цячэ, як сонная рака.

* * *

Ішоў баязліва, таропка
па вузенькай сцежцы быцця,
Сусвету малое дзіця,
зямная маленькая кропка.

Наканаваны быў шлях,
з яго я ўвесь час збіваўся,
што абяцаў, забываўся,
і гонар свой пляжыў наўзмах.

Паціху брыду пад гару,
пакорлівы, паслухмяны...
Звалюся ў мурог духмяны,
«О, Божа!» скажу.

І памру.

* * *

Змрочным вечарам сам пра сябе
Выпадковае апавядаю,
І ў бязладна-пустой гарацьбе
Хвілю радасную прыгадаю...

Сам сабе прашапчу: а было ж...
Немагчымае... ці прыдумляю?
Ды балючае – востры нож –
Нечакана ў сэрца цаляе.

Замаўкаю, нямое дзіця,
Што было, то было... заўздыхаю.
І зыйду моўчкі ў свет забыцця,
Добрым людзям рукой памахаю.

* * *

Я прастору не адолеў,
Плыткі час я не скарыў.
І за хвост не злапаў волю,
І памылкі паўтарыў.

Зноў стаю на раздарожжы:
Злева – цёмна, справа – гразь...
Злева ў змроку знік Сярожа,
Справа топіцца Юрась.

Мне б хоць вераб'ёвы крылы,
Пырхнуў бы я ўбок нябёс.
Мала сілы.
Тут магілы
Продкаў і радні.
Тут лёс.

## Начныя жахі

Я адбіўся зусім ад рук,
Я не ведаю, чым мне заняцца.
Набліжаецца дзядзька Каюк,
Мне штоноч яго крокі сняцца.

Перапуджаны, чую: тэп, тэп,
Быццам вобмацкам прабіраецца.
Я дзіўлюся: «Ці ён аслеп,
Ці нявопытным прытвараецца?»

Ды шанцуе мне: гэны госць
Не даходзіць... зацішыў крокі.
Прачынаюся з крыкам: «Я ёсць!»
І міргае мне свет яснавокі.

* * *

Мая душа сур’ёзна захварэла,
Канае ў змроку з пачуццём ліхім,
Усё, што ў ёй палала і гарэла,
Даўно пакрылася струп’ём сухім.

І ёй нічога не дапамагае -
Ці я малюся, ці гарэлку п’ю.
Хвароба, невылечная, благая
Не хоча адпускаць душу маю.

* * *

А колькі прайшло, а колькі?
Міма – лічы не лічы.
Колюць у сэрца колькі,
Бяссонніца уначы.

Думкі абсядуць, як болькі,
Сумненні, як крумкачы.
А колькі наперадзе, колькі?
...Паляпае ўрач па плячы...

* * *

Час надышоў дадому рыхтавацца,
Заседзеўся, здаецца, я ў гасцях.
Ды смутку не жадаю паддавацца:
Які бязмежны нада мной прасцяг!

Якое неба! Нават і праз хмары
Мне месячык міргае малады...
Узыдзе сонца... Пасвятлеюць мары...
Душа збалела? А такой бяды...

Я адыйду на досвітку, уранку,
Пакуль дзянёк не высушыў расу...

...Зацалаваная дзяўчына каля ганку
Сатрэ з вачэй шчаслівую слязу.

* * *

Калі мае справы пойдуць уніз,
Госпадзе, дай мне свабодны палёт.
Я ўспрыму як найлепшы твой прыз –
Смерць ад удару аб камень ці лёд.

Калі ўжо ўпэўненасць ёсць, што капец,
Ці варта ў магілу паныла спаўзаць?
Госпадзе, дай ты мне годны канец,
І каб нічога не мог больш сказаць...

* * *

Памру, як жыў: паспешна, бесталкова,
Каўтнуўшы волі на хаду, наспех.
На сініх вуснах зледзянеюць словы,
Застыне смех,
Нібы калядны снег.

І вынесуць чужыя дамавіну...
Ах, дзякуй, людзі, Бог вас беражы...
Свет не заўважыць, як яго пакіну –
Няспешчаны.
Няведамы.
Чужы.

* * *

І фінальны званок празвініць.
Знікавееш ты ад перапуду,
Больш не будзеш сабе маніць:
«Свае скарбы яшчэ я здабуду».

Сказ закончаны.
Кропка.
Канец.
І памылкі ўжо не пераправіць.
Вунь нястрымна ляціць ганец –
Праз раку цябе пераправіць.

Там людзей, як у лесе грыбоў,
Кожны праўду суседу даводзіць.
Воля вольная...
Без рабоў.
І ніхто анікому не шкодзіць.

* * *

Праз парог ступі, і – ты нідзе,
Больш не палюбуешся красой.
Што там завахлак ідзе-брыдзе
Час ад часу ўзмахвае касой?

Гэта не вахлак, а цётка Смерць,
Выйшла ў свет, заплямлены віной.
Месячык падрос ужо на чвэрць.
А ў цябе тры чвэрці за спіной.

Павітайся з Цётухнай, стары,
Будзеш гжэчны, дасць табе руку.
Толькі лішніх слоў не гавары,
Слухай развітальнае «ку-ку...».

* * *

І мяне адпяюць і праводзяць,
А жыццё будзе далей ісці.
Маладзіцы дзяцей народзяць,
Будзе жыта на ніве цвісці.

І дзяўчына на першым сене
Вусны смяглыя разамкне,
І спрасуецца ноч у імгненне.
Толькі ўсё гэта без мяне...

* * *

Не спрабую дастаць да неба...
Не спрабую патрапіць у рай...
Пада мной мая родная глеба,
Тут мой хлеб,
тут мой дом,
тут мой край.

Тут я шчасце спазнаў і пекла,
Мне прытулку нідзе больш няма.
Нас балюча, мой край, пасекла...
Я з табою трываў. Мо' дарма?

Ну, а як было бараніцца?
Не хапіла адвагі ў мяне...
У бяссіллі схіляюся ніца.
Я – палонны на гэтай вайне.

* * *

Нашто вам я – далёкі ад прароцтва,
Нашто вам я – і ўвесь мой радавод?
Нашто вам ведаць пра маё сіроцтва,
Нашто адзінка, калі ёсць «народ»?

Вы колькі жывяце, ратуеце агулам,
Для вас мільёны вартыя гульні.
Калі не ласкай, дык тады – пад дулам.
Нашто я вам... Гані яго, гані!

* * *

Ты стрыманы,
і ты з сябе не выйдзеш,
ды толькі цемень у вачах на дне
пакажа,
як пякельна ненавідзіш
ты ўсёй душою чорнаю мяне.

І правільна.
Табе я не таварыш.
Жыву па праўдзе,
ты ж хлуснёй бярэш.
Ты з-за вугла мяне калом ударыш,
і сам ад страху гідкага памрэш.

* * *

Я – адзін. І я цяпер свабодны.
Вольны ад хвалы і ад брахні.
Я маўчу, і тым – усенародны.
Бо й народ знямогся ад гульні.

* * *

Я не панок.
Я сын Антосяў.
Я ад зямлі.
Ад шэрых стрэх,
І да эліты не адносіў
Сябе ніколі...
Гэта ж смех!
Адкуль тут возьмецца эліта
Пасля калгаснага ярма.
Пасля агульнага карыта,
Дзе розум ніпчылі...
Дарма
Шукаць цяпер высакародных
Людзей,
Што вылезлі з дзярма.
Няма сумленных, шчырых, годных,
Ці мне здаецца,
што няма?

# Прарок

*Памяці Васіля Быкава*

Заўжды ўладары
крыжавалі прарокаў,
і песцілі слых ім
балбатуны.
Ён сціплай паходняй
свяціў нам у змроку.
Хоць з рук выбівалі,
паходню яны.

Не ўсе разумелі,
а што яму трэба,
а што, неўтаймоўнаму,
вечна карціць.
За вольны шматок
недасяжнага неба
гатовы быў
лёсам, крывёю
плаціць.

Цяпер без яго мы
бязмэтна блукаем...
Згубілі кірунак,
патухла святло...
Мы злосна адзін аднаму
наракаем:
«Ты збочыў са шляху...
а трэба было...»

## Прасвятленне

Зноў з’ехаў немаведама куды,
Нікому не сказаўшы пра нагоду.
Знік раптам, нечакана, як заўжды,
Шукаючы жыццёвую прыгоду.

Самотны, мусіць, глянуў у вакно
І волю ўбачыў, сам сабе заплакаў,
Памкнуўся ў неба, трапіў жа на дно,
Да недарэкаў, бедных небаракаў.

Ён вернецца, схуднелы, як шкілет,
Але па-блазенску вясёлы і шчаслівы.
Зноў узірацца будзе ў белы свет,
Нібы прарок, загадкава маўклівы.

## Наша мова

Свідруе душу пытанне...
Але ў каго запытацца?
Няўжо мой народ перастане
Да роднага слова звяртацца?

Няўжо ён парве бяздушна
Повязь з усім мінулым?..
А лічыцца ж ён – і слушна –
Добрым, разумным і чулым.

Няўжо ж ён, дзівак, паддасца
Нядобрым, чужым нагаворам.
Няўжо сваё роднае здасца
На людзях ужыць за сорам?

Ах, сцеражы нас Божа
Ад гэткага ачмурэння.
Не, гэткага быць не можа...
Ці й праўда, згніло карэнне?

* * *

«Што з табою сталася, мой дружа,
Нешта спахмурнеў ты, нібы хворы?
Ты ж заўсёды быў на дзіва дужы,
І ніколі – у благім гуморы.

Што ж цябе скруціла і сагнула,
Што настрой твой добры сапсавала?
Ці нястача ў багну зацягнула,
Ці зламала іншая навала?»

«Так, хаджу я змрочны і пануры,
Перапуджаны, у кут загнаны,
Толькі не ў чаканні грознай буры,
І не разбуральных ураганаў.

Бо не так мне страшныя цунамі,
І не так пужаюць землятрусы –
Творыцца штось жудаснае з намі,
З нашаю душою, беларусы».

## Мамін запавет

Са мною побач
рускія, яўрэі,
палякі,
беларусы-землякі.
Усіх нас сонца без выбору грэе,
Спяваюць – на ўсіх мовах
Ручайкі.

Я нарадзіўся
Кроўным беларусам,
Таму не дзіўна:
Беларусь люблю.
І беларусам у нябыт вярнуся,
У нашую бацькоўскую зямлю.

Не выракуся матчынага краю...
Але які б я патрыёт ні быў,
Не па крыві
Сяброў я выбіраю,
Не па крыві жанчыну палюбіў.

Па маміных вучыўся запаветах,
Бо лепшага не сустракаў суддзі.
«Са злодзеем, казала, з прайдзісветам,
З бандытам, сынку, дружбы не вадзі».

Не сябрукі мне,
Хто згубіў святое,
А ў іх мазгах адбыўся034ператрус...
Яны ж мяне цураюцца
За тое,
Што я жыву яшчэ...
Што беларус...

* * *

Аніхто не можа нас прымусіць
Злосную няпраўду гаварыць.
Той, хто хлусіць, без уціску хлусіць,
І не варта нам яго карыць.

Ён не вінаваты. У ягоных
Жылах кроў разбаўлена хлуснёй.
У вачах, як у бамжоў бяздомных,
Кропелькі не бачыцца жывой.

Гэта – невылечная хвароба,
Тут ужо нічым не памагчы.
У народ прынёс заразу Коба.
І лякарства прапісаў: маўчы!

* * *

Не магу.
Не хачу.
Не маўчу...
Толькі праўда пакуль не ў цане.
Я дарэмна так гучна крычу.
Злыдні кпліва смяюцца з мяне.

У нязменнай пашане –
Яны,
Згуртаваныя лаўкачы.
«Ну, чаго ты крычыш, як дурны?
Далучайся –
І мудра маўчы!»

* * *

Няма кахання – ёсць сувакупленне.
Няма паэзіі – ёсць хэнць гаваруна.
Няма святога – ёсць з душы глумленне.
Няма палітыкі – а ёсць адна мана.

Усё ураўнаважана выдатна:
Чагось няма – чагосьці вельмі шмат.
І ўсё, што ёсць, даецца нам бясплатна:
Парад, нагляд і светлы далягляд.

* * *

І куды нас нячыстая гоніць?
Ці не ў продань наш свет ляціць?
Што за прага душу палоніць?
Чым гатовыя мы заплаціць?

Кажуць, Бог неадольна старэе...
А старога ці варта любіць?
Кола зроку вузее, шарэе.
У планеты ўжо вось ледзь рыпіць.

* * *

Разбягаюцца думкі, якая куды,
Не сабраць іх у ладны статак.
Як завеяй занесены ў полі сляды:
Дзе канчаюцца, дзе іх пачатак?

Я пакутую ў пошуках праўды.
Дурны:
Трэба жыць па агульных законах.
Па законах цаны, па законах маны,
Па правераных сацзабабонах.

Сёння трэба гібець, сёння трэба трываць,
Заўтра будзе не лепш, чым учора.
Трэба згодна маўчаць, галавою ківаць,
Самы лепшы ратунак – пакора.

Ну, а я не хачу, ну, а я не маўчу,
Неразумны, я праўды шукаю.
Мне ад слёз безвыходнасці цёмна ўваччу.
Бог так хоча.
Не наракаю.

## Два старыя,
## з савецкіх часоў, вершы...

У век барацьбы за адзінства
Адзін аднаму не верым.
Нас прывучылі з дзяцінства
Адпавядаць паперам.

Барацьбіты – на словах,
Са спадчыннай анкетай
Крочылі па галовах
Да «самай высокай мэты».

Хто вышай стаяў – віталі,
Хто не згаджаўся – таптаалі.
Потым хлусліва шапталі:
«Нам гэныя загадалі...»

* * *

Ці мушу я душой любіць
Кіраўнікоў дзяржавы...
Не ведаю, як дзень прабыць,
Бо мой бюджэт трухлявы.
А заўтра, кажуць, будзе горш,
З турботаў іх штодзённых...
А мне ласка́ва: «Сука, врёшь...
Зажрался на казённых...»
Залюбіш гэтак хоць каго,
Бадзёра заспяваеш...
...Смяецца бабка: «Нічаго,
Скарынку ж маеш...»

* * *

Жыў я грэшнікам, перасмешнік,
Не журыўся з-за нейчых бедаў,
І цікавіўся мной дэбэшнік,
Я ж нічога пра тое не ведаў.

Ганарыўся, што гожа спяваю,
І адкладваў сталенне на потым...
Ах, не думаў я, што прапіваю
Свой апошні рубель з «сексотам».

Да каго ж ты, хлапец, даслужыўся,
Да палкоўніка, генерала?
На агрэхах чужых нажыўся?
Сіла боская не пакарала?

Значыць Бог і прайдохаў шкадуе,
Значыць, ён да ўсіх справядлівы...
Хай душа твая не бядуе,
Калі можаш, дык будзь шчаслівы...

* * *

Не заблудзіся ў сабе –
Будзь матчынай веры верны –
Чуеш: над вухам сапе
Твой антыпод ненажэрны.

Ён сочыць штоночы, штодня
За светлай людской праявай.
Адвечная фарбаў гульня:
Белай і чорнакрывавай.

* * *

Змяркаецца. Цямнеюць далягляды.
Ужо губляю вузкую мяжу.
Выходжу ў поле і бясконца рады.
Валюся на пракошу
І ляжу.

Я разумею: гэта ненармальна –
Брысці і падаць пад любы адхон.
Спакой душы.
Смяюцца зоркі ўхвальна.
Няхай што хоча кажа пустазвон.

Кіруюць мною іншыя законы...
Жыву, як мне загадвае душа.
Сурочаны. Няўгодны. Падазроны.
Вар'ят,
які здаваўся, як і ўсе, спярша.

А я не чую мудрае падказкі
ад тых прарокаў,
што плятуць ману.
Не іхняй я засолкі і закваскі...
Паціху мацюкнуся – і засну...

* * *

Гэты свет для мяне – чужы.
Я патрапіў сюды выпадкова.
Мне бліжэй жабракі і бамжы,
Чым маралі маёй ахова.

Сёння я перапіў віна,
Думаў, гэтым душу супакою...
Невялікая навіна:
Я на «суддзяў» махнуў рукою.

* * *

Сустрэчныя мне ў вочы не глядзяць...
Цяпер мы ворагі ці антыподы?
Мне хтосьці скажа: «Ты сябе не трaць,
Забудзься ўсё, як прыкрыя нягоды.»

Я ж не магу забыцца, як ішлі
Паводдаль ад натоўпу, паасобку,
Цяпер унурыўшыся пабрылі,
Туды, дзе больш няцяжкага заробку.

Сустрэчныя мне ў вочы не глядзяць,
А сарамліва позірк касавураць.
Няўжо ў душы змярцвелай «тишь да гладь»?
Няўжо не разумеюць, што «халтураць»?

* * *

Чаму сусед маўчыць,
Калі я гавару?
Чаму так вочы долу апускае?
Ці не зашмат я на сябе бяру?
Ці ў мяне мова, можа, не такая?

Ну што я там сказаў такое:
«Не ўкрадзі!»
Як быццам да мяне
Так людзі не казалі...
Жыць без сумлення –
Шчырага суддзі, –
Як быццам начаваць
На лаўцы на вакзале.

Ну што я там сказаў такое:
«Не мані!»
Як быццам да мяне
Не ганьбілі манюкаў...
А ты з сябе манюку прагані,
І ад хваробы ўберажэш
Унукаў.

Ну што я там сказаў такое:
«Не забі!»
Як быццам да мяне
забойцам былі рады...
Ну, не любі мяне,
Сусед мой,
Не любі,
Але і не страляй
Па мне з засады.

Прыпомні запаветы –
І павер...
Падстаў шчаку –
Разгубіцца зласлівы...
Прыпомні, чалавеча:
Ты – не звер...
Жыві па-людску –
Гэтым будзь шчаслівы.

## Прывідныя мроі

А думкі ніяк у гурт не збіраюцца,
Словы не ладзяцца ў сказы ніяк.
Прывіднае гледзішча ўсё паўтараецца:
На снезе калядным крывавы камяк.

Гэта з дзяцінства ў мяне засталося:
Страх падсвядомы і крыкі ўначы...
Хто мне прызнаецца: што адбылося?
Свет толькі шчэрыцца: Ціха! Маўчы!

Бог не пярэчыць... Значыць, дазволена...
Хто пераможа: прарок альбо хлус?
Сцежкай, якая вякамі намолена,
Крыж свой нясе на Галгофу Ісус...

## Пратэст

Не падстаўляў я нікому шчакі –
Білі і не пыталіся.
Ціснулі моцна абедзве рукі,
Як быццам віталіся.

Казалі: ён верыць, умее трываць,
Ён, бачыце, з намі.
Меў права я, звязаны, толькі ківаць,
Што згодны з панамі.

Але нарэшце я выгукнуў: «Не!»
Аж сам скалануўся.
Расклеіўся рот. Было гэта ў сне.
І я прачнуўся.

* * *

На фантазіі багатыя паэты
Напісалі вершыкаў тамы.
Мудрагеліста закручаны сюжэты.
Люд жа абыякава нямы.
Не хвалюецца. Ці, можа, не чытае...
Ці заняты півам ды к(в)іном...
За вакном жа восень залатая...
Слёзы льюцца з неба за вакном...

## Рэклама

Чытайце вершыкі мае, спадарства,
Ну, хоць штодня па некалькм радкоў.
Яны напісаныя проста, без штукарства,
Як пішуць для сяброў і сваякоў.

Яны не правакаюць, не дурачаць...
З людзей наіўных злосна не пакпяць.
І парагочуць з вамі і паплачуць
І нават вас, замораных, прыспяць.

Чытайце для дзяцей іх, таты, мамы,
Пературарыце вершыкі ў гульню.
Чытайце і не бойцеся рэкламы,
Якая ў вершах хваліць дабрыню!

* * *

Я чытаю чужога паэта...
Адчуваю: па духу ён свой.
Колькі спета ўжо і перапета...
Тчэцца ў свеце бясконцы сувой.
І паміж шанаваных, забытых
Ці абыйдзеных у дзяльбе
Хтось застаўся ў куточку сіта,
Каб патрапіць на вочы табе.
Ён гаворыць на простай мове,
Ён бядуе, смяецца... жывы...
Пашукайце свайго, панове,
Хоць з чужыны, а духам, як вы...

* * *

З цяжкасцю ўлажу ў нейчую думку,
За што б ухапіцца, дзе тут цаўё?
Бы вытрасаю вялікую сумку,
Між жончыных рэчаў шукаю сваё.

Вельмі загадкава, дужа туманна,
Не бачыць дэталяў зняверáны зрок.
Не ацаніў я мудронага пана.
Загадкі.
Таемнасці.
Сэнсавы змрок.

## Нічога новага...

Нічога новага няма:
Што састарэла, паўтараем,
А думаем, што цуд ствараем,
Шэдэўры лепячы з дзярма.

А мудры крытык, «з бадуна»,
Пакруціць носам і прысудзіць:
«Вось тое, што народ разбудзіць...»
Рубель дастане аўтар: «На...»

Махне рукой абвялай толькі
І шпарка выйдзе за парог.
Заплача: «Ну, няўжо я змог?»
І тут памрэ:
Старыя болькі.

* * *

Сорамна вершы пісаць, а – пішу,
Словы да сказаў збіраю, рыфмую,
Сорамна грэшнікам быць, а – грашу,
Гучна смяюся, а потым сумую.

Сорамна жыць і баяцца, а я
Жорсткіх герояў як раз і баюся.
Сорамна мне, што планіда мая
Круціцца ў вечнай няўпэўненай скрусе.

Сорамна... сорамна... што мне рабіць?
Людзі смяюцца, і свет не ўспрымае.
Баюся надзею ў душы загубіць.
Вера ў дабро мяне ў свеце трымае.

* * *

Вы просіце вершаў –
Дык маеце прозу,
Вы просіце праўду –
Вазьміце хлусню!
Вы любіце гэткія метамарфозы?
А я іх вельмі высока цаню.

Вы просіце хлеба –
Дык маеце камень.
Вы просіце ўвагі –
Адчуйце тычок!
Паэты! Не будзьце балбатунамі.
Язык прыкусіце!I ціха! Маўчок!

* * *

Зусім маленькі вершык напішу,
На два слупкі,
Не хопіць слоў на болей.
У ім я ўсё жывое задушу.
Не дам сваім дурным пачуццям
Волі.
Я міма вас, заплаканых, прайду...
Душа мая глухая і сляпая.
І не падумаю
Чужую ўзяць бяду...
Як быццам мне
Уласнай не хапае.

* * *

Як гожа ружы зацвілі ў гародзе!
Раса блішчыць, як дыямант, на кропе.
Паэты сёння анідзе не ў модзе –
Ні ў Афрыцы, ні ў Штатах, ні ў Еўропе.
Мяне ж, паверце, землякі чытаюць,
У полі, пад павеццю, у канторах,
А пры сустрэчы ветліва пытаюць:
«Скажыце, дзядзька, ёсць яшчэ ў вас порах?»
Кажу: «А як жа? Гэта ў нас нязводна!
Я нездарма з’ядаю восем яек!
І потым адчуваю сябе годна...
З кабетамі – паэт я,
З шэфам я – празаік».

* * *

Не часта я раблюся ўпартым:
Як толькі цяжка, дык здаюся.
Складаю вершы лёгка, жартам,
І з іх, бывае, сам смяюся.
А як хто іншы іх успрыме,
Я толькі мімаходзь адзначу.
Я не крычу: служу Радзіме!
Смяюся разам з ёй і плачу.

Недапісаны вучнёўскі верш
Кот пратаптаў праз снег сцяжынку,
Сядзіць, смяецца.
Настаўнік цоп! маю смяшынку,
Стаіць, злуецца.

А я сяджу каля вакенца,
Тут сонца свеціцць.
Павук вунь цягнецца па сцэнцы,
На што ён меціць?
Няўжо ён муху запалоніць,
Рабыняй зробіць?
Мяне на сон паціху клоніць.
Наўчыўся... Хопіць...

* * *

Банальна жыву я,
не адмыслова,
банальныя вершыкі ў сшытак пішу.
Шукаю дарма
незацёртае слова,
каб чытачу
ўзбаламуціць душу.
Чытач –
не прасцяк,
ён ніяк не даецца:
ён ненавідзіць «прыкольнасць»,
«лапшу».
Я ж, дурань, імкнуся –
ды мне не ўдаецца –
яму, хітраку,
устрывожыць душу.

І замаўкаю.
І слухаю зоркі...
Як неба спявае, як дзіўна звініць...
Не пачынаю
фальшывай гаворкі,
баюся па звычцы
яшчэ раз зманіць.

* * *

Я да паліцы працягнуў руку,
За томік ухапіўся – без разбору.
І спахмурнеў на першым жа радку:
Так моцна я адчуў чужое гора...

Як быццам бы я сам не гараваў,
Не галадаў, не стыў на халаднечы.
Чаму ж я раптам заперажываў
За гэны вершык выдуманы нечы?

Ці не таму, што і са мной было,
Калі не ведаў: біцца ці маліцца?
І вось цяпер былое запякло,
І я паставіў кніжку на паліцу.

## Купляючы на кірмашы бульбу

Як годна нясе на людзі
Важкія грудзі свае...
А людзі ж – заўсёды суддзі
І судзяць па-свойму яе.

Дзядзька ўздыхнуў: «Кабета
Умее сябе падаць».
А жонка: «Ды хімія гэта,
Здалёку адразу відаць».

А я маўчу. Адпярхнуўся...
Ды з месца бачком-бачком
Дадому хутчэй памкнуўся,
Прыцмокнуўшы языком.

**О!**

На радасць, ці на злосць
Па-беларуску шпару.
А малады мой госць
Спявае пад гітару.

Ён сам прыдумаў тэкст,
І нот не пазычае.
Я патрабую: «Next!*»,
Што «weiter!**» азначае.

І мы з ім удваіх
Ствараем рок тутэйшы.
З’яўляюцца ўжо ўміг
Сваёй гадоўлі гейшы.

Такіх кахаць не грэх
І цалаваць у вусны,
І слухаць іхні смех...
О, нораў наш распусны!

О, як цудоўна жыць
Пад музыку і спевы!
Душа мая дрыжыць...
О, сілы мае, дзе вы?

---

* ***next!*** (англ.) – наступны!
** ***weiter!*** (ням.) – далей!

* * *

Дзіўлюся з гэтае кабеты,
Які ёй д'ябал сэрца тлуміць:
Ні пра супы, ні пра катлеты,
Ні пра дзяцей не хоча думаць…

Уся у справах – актывістка,
На сход навыперадкі прэцца.
За права быць свабоднай б'ецца.
Іграе ролю – феміністка.

Ды раптам – гэткая няўдача,
Муж, праклінаючы нядолю,
Пайшоў на волю.
Жонка плача:
Хачу зноў бабіную ролю…

* * *

Ішоў з дзяўчынай пад руку,
Памалу ўжо світала.
Вяла сцяжына з хмызняку.
Дзяўчына рагатала.

Ён зразумець ніяк не мог.
Яна ж праз смех мармыча:
«Мне за разрэз упаў шыльнёг
За пазухай казыча».

Адвёў дзяўчыну крышку ўбок,
«Дастанем», пахваліўся…
Шапнула: «Любы галубок,
А ён ніжэй зваліўся».

* * *

Дзяўчына зверху мые вокны,
Я ў краму хуценька бягу…
Ах, я на сёмы зараз скокну,
Ёй вокны мыць дапамагу.

Я шыбы й рамы адшарую,
Ды кінуся ў шалёны вір…
Ды не…
Да крамы крок кірую –
Мы з жонкай нанач п’ем кефір.

## Філасофскі дыялог

Я падап’ю, абстрактна думаць буду,
Па вуліцы я ўлукаткі пайду.
Прыпомню ўслых Канфуцыя і Буду,
Францішка нашага, «хахла» Скавараду.
Але мяне сяржант не зразумее,
Мне скруціць рукі, да зямлі прыгне.
«Ты ведаеш, апрычнік, Апулея?»
«Не, Апулей твой не трапляўся мне».

* * *

Мой карабель сеў брухам на мель.
Прайграў я. Надзея гарыць.
І выскачыў чорт, як Пілiп з канапель,
І просіць: «Дай прыкурыць».

Я закрычаў: «Барані мяне Бог»!
І чорта апёк мой крык.
Ён мігам забіўся ў чартапалох,
Як выскачыў, так і знік.

* * *

Ах праляцелі, ах зніклі, расталі,
Дні ўзлёту паэта – пара залатая…
Тады, маладога, каханкі чыталі,
Цяпер жа і жонка ўжо не чытае.

## Спроба мадэрна

Афарызмы аферыстаў…
Зухаватых злыдняў здрада…
П’есы п’яных піяністаў…
Надзяромся, Надзя? Нада…

* * *

Ахрэму, як і ўсім, балелі болькі,
Было няўтульна ў злосным атачэнні…
Ён змагаром лічыў сябе, паколькі
Напагатоў меў фігу
у кішэні.

* * *

«Ах ты, грахаводнік,
жыць больш сціпла трэба:
Не думаць перш-наперш
пра скарынку хлеба,
А пра справядлівасць, неба і душу…
Ідзі памаліся!»
«Дайце ж, закушу».

* * *

Мне жанчына шаптала ў зацішку:
«Далібог, я люблю тваю кніжку…»
Я ўзбудзіўся, спытаў: «А мяне?»
А яна не ўзбудзілася: «Не…»

* * *

Сустрэўся ў трамваі з гейшай,
Тутэйшай,
Здалася з усіх гейшаў
Найхарашэйшай.

Ахрэм:

Люблю я лібералізацыю,
Што далі мне яны:
Чужую жонку мацаю –
І хоць бы хны!

* * *

Ахрэм кахаў жанчыну,
Але не дакахаў…
Шукаючы прычыну,
Пакутваў і ўздыхаў.

* * *

Ахрэм крычаў праз слёзы
У свет сляпы, глухі.
Счарсцвелым слаў пагрозы
І бэсціў: «Лапухі!»

* * *

Ахрэму сумна, хочацца забыцца:
Мільгнула маладосць, як тая бліскавіца.
Павесіцца б? Ці лепей утапіцца?
Ці да шынка дайсці… ды ўшчэнт напіцца?

* * *

Пайду куплю сабе штаны
Самыя маднецкія… а што?
Няхай зайздросцяць мне яны,
Тыя, што катаюцца ў аўто…

* * *

У галаве ў мяне парадак,
І я цяпер не памылюся:
У кніжкі панаклаў закладак.
Цытую. Розумам хвалюся.

* * *

Ахрэм пайшоў служыць у леснікі,
Ён думаў адляжацца на прыродзе.
А там ваўкі, мядзведзі і дзікі
На волі ходзяць. Ён збаяўся: «Годзе!»

* * *

Ахрэм таксама памыляцца можа.
Яго ад жонкі ўдовіца ўмыкнула.
«Ты без адзення вельмі непрыгожы!»
Сказала і назад вярнула.

* * *

Ахрэм аднойчы ўзлез на дах,
Вільчак аберуч абдымае.
Сядзіць, не злазіць. «То не страх!
Мяне тут вышыня трымае».

* * *

Ахрэм зласліўцаў позіркам пужае:
Глядзіць наскрозь, але не заўважае.

* * *

Ляжаў у зацішку, чытаючы кніжку,
Заснуў потым раптам, быццам выпіў лішку…

* * *

Ахрэм Нядбайла, каб прагнаць дакуку,
З дзяўчатамі знаёміцца ў фэйс-буку.

* * *

Ты кажаш: не кахае? Сам падумай:
Каму патрэбны ты з такою сумай?

* * *

Дзяўчына наіўная, нібы дзіця,
бязгрэшная ў справах і ў думках….
Хаця…

* * *

«Каго баяцца – лысага ці рыжага?»
«Асцерагайся жорсткага і хіжага!»

* * *

Ахрэм сказаў: «Ну і народ…
Ён скварку хоча круглы год…»

* * *

Ахрэм Нядбайла прагна выпіў чарку,
А скваркі не знайшлося закусіць…

* * *

Ахрэм трываў, маліўся і пасціўся,
Убачыў. Спакусіўся. У загул пусціўся.

* * *

Ахрэм, казалі, з жулікамі спеўся.
Ды не, ён з іх прысутнасцю сцярпеўся.

* * *

Ахрэм – святы наіў — прачнуўся і заплакаў:
Ён толькі што сасніў знаёмых вурдалакаў.

* * *

Ахрэм іх меў даволі, лісліvenькіх «сяброў»,
Ды лепш бы ён ніколі не браў ад іх дароў.

* * *

Ахрэм не спіць да ранку,
ён – чалавек-«сава»,
А днём, хоць кінуў п'янку,
не варыць галава.

## Любоўнае дзвюхмоўе

Ахрэм спытаў пяшчотна: «Гарэлку ці віно?»
Адказвала гаротна: «С тобою – всё равно!»

* * *

Ягоны блог чытае Бог
І ціха шэпча: «Ну і лох!»

* * *

Ахрэм тры дні сядзеў у далечы ад шуму.
Ён капялюш надзеў, старанна думаў думу.

* * *

Ахрэм рабіў дзяцей з вялікаю ахвотай,
Ды, як разведчык, больш ад жонкі ўпотай.

* * *

Ахрэм прыпомніў беднае дзяцінства,
Галоднае юнацтва і яшчэ шмат свінства.

* * *

Ахрэм быў чулы, тонкі лірык,
А людзі называлі проста: «Кнырык».

* * *

Ахрэма адна дзева ноччу разбудзіла:
«Што ты спіш пад дрэвам!
Ідзі дамоў, мудзіла!»

* * *

Ахрэм быў во! палітык, за праўду змагаўся,
Ды пра свой нажытак прызнацца вагаўся.

* * *

Ахрэм быў на пляжы,
як блін згарэлы, спёкся,
І чорны, як сажа, праз вёску валокся.

* * *

Ахрэм быў наравісты,
штогод зноў – халасты…
Злавілі тэрарыста, бо ён паліў масты.

* * *

Ахрэму, дзіваку, прыспела йсці у сваты,
Ды ў аграгарадку ён пераблытаў хаты.

* * *

Ахрэм наеўся цешчыных аладак,
На канапу ўлёгся, прамовіў: «Парадак».

* * *

Ахрэм – не недавумак –
адкрыў уласны блог,
Бо назапасіў думак, як сабака блох.

* * *

Ахрэм не быў здзічэлы,
каб людзей цурацца,
Заўжды знаходзіў «чэлаў» – пагаманіць,
«надрацца».

* * *

Ахрэм выдаў кніжку, з усмешкай гартае…
Народ кажа: «Глупства»?
Дык, значыць, чытае.

* * *

Ахрэм сасніў: ляціць у самалёце –
То ж муха гудзела ў разяўленым роце.

* * *

Ахрэм па цаліку бяжыць, куды ён прэцца?
Да ўдовіцы-кумы спяшыць ён,
каб пагрэцца.

* * *

Ахрэм раззлаваўся, дый было з чаго:
Самы доўгі вершык сцібрылі ў яго.

* * *

Ахрэм гукнуў: «Усё абрыдла!»
Адгукнулася рэха: «Быдла!»

* * *

Ахрэм, прапіўшыся, шаптаў: «Сынок,
Абыходзь ты старaной закляты шынок…»

* * *

Ахрэм на ўласным ганку сядзеў і нудзіўся,
З сябе выйшаў зранку, ды і заблудзіўся.

* * *

Ахрэм крыў праўду-матку,
крычаў: «Маю права!»
Аніхто не слухаў – ні злева, ні справа.

* * *

Ахрэма рэдка заўважалі людзі,
Бо засланялі жончыныя грудзі.

* * *

Ахрэм у сваім доме дрэнна гаспадарыў.
Ён ва ўсім свеце гаспадарыць марыў.

* * *

Ахрэм і на выгляд – чысты летуценнік:
Галава кудлатая, барада – як венік.

* * *

Ахрэму дзяўчына шаптала: «Ахрэме,
Не смяшы хвіліну, мы ж у іншай тэме.»

* * *

Ахрэм залез на дрэва, бачыў з верхатуры:
Направа, налева – буралом культуры.

* * *

Ахрэма прагнала з першай ночы Ніна:
Не прызнала Ніна яго за славяніна.

* * *

Ахрэм кахаў: душа ўся захмялела…
Працверазеў… інтымнае балела.

* * *

Ахрэм аж заплакаў, і было з чаго:
Шапннуў ёй: «Кахаю…», а яна: «Каго?»

* * *

Ахрэм на роўным месцы спатыкнуўся,
Ён выхаваны быў, а… мацюкнуўся.

* * *

Ахрэм, празаік знаны, прылёг пад бярозай,
З ёй загаварыў ён рытмізаванай прозай.

* * *

Ахрэм трывае цяжка сёлетнюю спёку.
У адстаўцы пляшка. А што карысці з соку?

* * *

Ахрэм за права быць самім сабой
Наладжваў няслабы мардабой.

* * *

Ахрэм мо' пяць разоў перахрысціўся:
Ён цалаваць папову жонку прымасціўся.

* * *

У гэткую гарачыню
Звычайна мастакі малююць «ню»*.

*****Ню*** *– для тых, хто не ведае па-французску: аголеная жывая натура.*